Др. Я. СТАНКЕВІЧ.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЯЗЫКА

Выданьне аўтара.

ВІЛЬНЯ 1939

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЯЗЫКА.

Нутраной гісторыяй языка ё развой ягоных гукаў, морфолёгічных і сынтаксычных хормаў ды слоўніка. Да гісторыі вонкавай языка належыць пашырэньне ці звужэньне данага языковага прастору, мамэнт літаратурнасьці, напасьледак грамадзкое значэньне языка ў розныя поры гісторыі народу. У гэтым артыкуле будзе мова аб вонкавай гісторыі языка беларускага.

Вонкавая гісторыя кажнага языка балей альбо меней цесна зьвязана зь гісторыяй культурнай і палітычнай данага народу. Як пабачым ніжэй, гэта ў сту працэнтах адносіцца да вонкавае гісторыі языка беларускага.

## Беларуская мова ў пару праславянскую.

Да свайго выдзяленьня ў вапрычоны язык беларуская мова была нарэччам языка праславянскага. Ужо тады яна мусіла займаць ладны прастор у паўднявой часьці цяперашняй Беларусі этнографічнай, даходзячы на поўначы найвышэй да Смаленска. Як выходзіць із старых асаблівасьцеў языковых, супольных у беларускага языка зь іншымі языкамі славянскімі[1]), беларускае нарэчча граніча ў пару праславянскую на паўдні з нарэччам украінскім, на паўднявым заходзе — із славенскім[2]), на заходзе — з польскім, на паўночным заходзе — з кашубскім, а на паўночным усходзе— з расейскім. Ведама, што ўжываю назоваў пазьнейшых. Апрача таго ўжо ў гэную пару беларуская мова гранічыла на поўначы з нарэччамі балтыцкімі. Тыя самыя асаблівасьці языковыя, супольныя ў Беларусаў із іншымі Славянамі, сьведчаць, што беларускі язык беспасярэдне выдзяліўся зь языка праславянскага, значыцца, што ня было пары прамежнай паміж праславянскай і беларускай[3]).

[1]) Станкевіч Я., Месца беларускага языка сярод іншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку („Родная мова" № 5, бач. 97—109).

[2]) Супольна із славенскім беларускі язык мае пераход „л" у „ў" і такую важную асаблівасьць як аканьне, вылучна ім дваім супольную.

[3]) Станкевіч Я., ibid, прыр. так-жа Hujer O., Uwod do dejin jaz. čes., каторы паміж іншым кажа на бач. 80: „Відаць, што нельга языкі славянскія з нутраных якіх довадаў дзяліць на заходнеславянскія, паўднёваславянскія й усходнеславянскія. Навуковая клясыфікаца языкоў славянскіх здаваляецца іх вылічэньням і констатаваньням старых супольных рысаў"

## Пара гісторыі апрычонага беларускага языка ад пачатку да XIII стаг.

Выдзяленьне беларускага языка з праславянскага настала не пазьней як у V стаг. па Хрысту[1]) Выдзяленьне асобных языкоў славянскіх ішло побач із расьсяленьням розных часьцеў Славян на балей або меней новых прасторах. Дзеля таго што жыцьцё новых народнасьцеў славянскіх было дэцэнтралізаванае, па якімсь часе настала іх дыфэрэнцыяца на асобныя плямёны з пачаткамі новых нарэччаў. У той час прастор беларускага языка зыходзіўся з прасторам займаным усімі беларускімі плямёнамі. Быў гэта прастор вялізарны. У IX—XV стаг. граніцы беларускага языка былі гэткія: Мяжа з мовай польскай праходзіла крыху далей на заходзе як цяперака[2]), а на ўсходзе цягнулася далёка за Аку, абыймаючы Арол, Курск, Калугу і ладную часьць краю Разанскага. Басэйн ракі Акі займалі беларускія Вяцічы[3]). Граніца зь языком украінскім праходзіла на паўдні ад Прыпяці. На паўдзённым усходзе ўвесь басэйн Дзясны быў заняты беларускімі Севяранамі [4]).

На поўначы Беларусы (плямя Крывічы) займалі ўсю гісторычную Пскоўшчыну ўлучна з возерам Пскоўскім ды ладную часьць Цьверскага княства[3]).

---

[1]) Прыр. проф. Hujer, ibid.

[2]) Цяперашняя граніца беларускага языка з польскім праходзіць ад вусьця р. Супрасьлі ў Нарву ў простым балей меней кірунку на паўдня (на паўдні Бельскага пав. ськівровуецца выразна на ўсход у кірунку Берасьця) і на поўнач. Глянь „Mapa dialektów białoruskich" („Balticoslavica" II, 399).

[3]) Аб беларушчыне Вяцічаў і Крывічоў гл. мой артыкул „Беларускія плямёны і іхняе расьсяленьне" (Родная мова" № 2, бач. 5-14 і № 3-4, бач. 49-59). Там-жа паказана літаратура. У гэным артыкуле я ўважаў, што Вяцічы й Радзімічы на свае гісторычныя сялібы прыйшлі із заходняга прастору беларускага. Такі пагляд быў выкліканы станам веданьня аб беларускіх дыялектах у часе пісаньня артыкулу (1925 г.), пайменна, як Карскі, так і Маскоўская Дыялектычная Коміся азначалі беларускі дыялект у Чарнігаўшчыне як дысыміляцыйны (вымова в ы д а, н ы г а і пад.). Гэткім парадкам недысыміляцыйнае аканьне вяціцкае (вымова в а д а, н а г а і пад.)

**Беларускі язык гаспадарсъцьвены й літаратурны ў Вялікім Княстве Літоўскім. Слаўная пара беларускага языка (стаг. XIII - XVI).**

Стаўшыся апрычоным, беларускі язык, падобна як і іншыя языкі, быў даўгі час адно языком народным, гэта значыцца, што ня было ў ім літаратуры. Прыймо хрысьцянства ў канцы X стагодзьдзя спачатку нала зьмяніла ў гэтай справе, бо, як і ў іншых народаў, языком літаратурным стаўся язык багуслужэбны, каторым у Беларусі быў язык царкоўна-славянскі або накш кажучы старабаўгарскі. Адно з XIII стаг. захавалася шмат памяткаў, пісаных у мове беларускай. Паходзяць яны галоўна із зьемляў Полацкай і Смаленскай. Буйное й дэмократычнае грамадзкое й палітычнае жыцьцё ў гэтых гаспадарствах прыяла ў іх раньняму вызваленьню ад царкоўна-славянскіх уплываў у языццэ. А даўгая пара культурнай працы ў беларускім языццэ народным паслужыла прыгатоваю да таго, каб у стаг. XIV ён стаў языком літаратурным і гаспадарсьцьвеным у новым задзіночаным гаспадарстве беларускім, ведамым у гісторыі пад назовам Вялікага Княства Літоўскага. Асноваю даўнейшага беларускага языка літаратурнага сталіся гаворкі паўднёва-полацкія, будучыя адначасна гаворкамі ўсходнімі ў цэнтральным дыялекце

---

было адлучана ад такога-ж аканьня заходне-беларускага аканьням дысыміляцыйным.

Але аднолькавасьць першых двух аканьнеў можна было выясьніць толькі іх аднолькавым паходжаньням, што ўсувязі зь весьцяй кіеўскага летапісца прынукала Вяцічаў, а за імі й Радзімічаў выводзіць із заходу Беларусі. А калі ў 1927 г. П. Растаргуеў у сваёй монографіі „Северско - белорусский говор" паказаў, што северскае аканьне недысыміляцыйнае, дык менаваная перагародка паміж аднолькавым беларускім аканьням шчэзла і няма жаднай прычыны Вяцічаў і Радзімічаў ня лічыць спачатным насяленьням на іх гісторычных сялібах. Згодна з такім раскладам аканьня трэ' было - б з гледзішча гістарычнага беларускую мову дзяліць на нарэчча паўночнае (дысыміляцыйнае, крывіцкае) і на паўднявое (недысыміляцыйнае, паходзячае ад усіх іншых беларускіх пляменаў).

[4]) Растаргуеў П., Северско-белорусский говор. Пецярбург 1927. У гэнай працы Растаргуеў канчальна давёў, што Севяране былі беларускім племенем. Гэную працу я зрэфэраваў у варт. „Севяране — беларускае племя" („Калосьсе" . Вільня 1935).

беларускім.[1]) Гэта цяпер гаворкі паветаў Дзісенскага, Браслаўскага, Лепельскага, Дрысенскага, часткава Полацкага, Сянскога, часткава Аршанскага і часьці паветаў іншых.

Старабеларускі язык літаратурны быў вельмі скрысталізаваны, ён меў ладную колькасьць граматычных а на'т слоўных нормаў. Нягледзячы на гэта ў дальшай сваёй гісторыі ён паддаваўся ўплыву асобных беларускіх дыялектаў народных, што адбіваліся на яго часьцех незнормалізаваных. Гэтак у канцы стаг. XV і ў першай палавіне XVI робяць на яго ўплыў беларускія гаворкі паўночна-ўсходнія[2]). А калі ў II-й палавіне XVI стаг. Маскоўшчына пустошыць паўночна-ўсходнюю Беларусь, на літаратурны язык пачынаюць уплываць гаворкі заходнія цэнтральнага беларускага дыялекту[3]). У пазьнейшыя часы ня вылучаны ўплыў беларускіх гаворкаў паўднёва-заходніх (Слонім, Ваўкавыск, Горадзен)[4]).

Старабеларускі літаратурны язык быў языком гаспадарсьцьвеным на прасторы ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, значыцца ў ведамую пару (канец стаг. XIV і першая палавіна XV.) ад мора Балтыцкага да Чорнага, ужываўся як абавязкавы ў усіх урадах, судох, у законадаўстве ды панаваў на двары вялікіх князёў. Быў ён адначасна мовяю асьвячоных клясаў бяз розьніцы нацыянальнасьці, значыцца не адно беларускіх, але такжа літоўскіх і ўкраінскіх. Мала гэтага, ён перайшоў гаспадарсьцьвеныя граніцы, бо ўжываўся ў Галіччыне і нат на дварох гаспадароў малдаўскага й валоскага. Дык няма дзіва, што ён стаўся мовяю дыплёматычнай на ўсходзе Эўропы. Быў багаты і ўсебакова выраблены.

Варта зацеміць, што нячысьленыя беларускія мусульмане, спачатна рознага паходжаньня, пазьней этнографічна й этнолёгічна засыміляваныя Беларусамі ня толькі гаманілі між собку пабеларуску, але такжа ўжывалі беларускі язык як богаслужэбны ў сваім царкоўным жыцьці (у мэчыцех). Асталася з гэных часоў ладная рэлі-

---

[1]) Глянь у „Balticoslavica II., бач. 389. мая рэцэнзя працы Стангавай (Stang Chr. S.) „Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürtentums Litauen".

[2]) Там-жа, бач. 390.

[3]) Там-жа, бач. 392.

[4]) Там-жа 393.

гійная літаратура мусульманская ў языццэ беларускім, але не ў літаратурным, а ў народным[1]).

Жыды спачатна прыбывалі ў Беларусь з Усходу і мусілі гукаць языкамі краёў, з каторых эмігравалі. А далей яны прынялі язык беларускі. Яны пісалі ў языццэ беларускім літаратурным. Захаваліся пераклады зь XV стаг. на беларускі язык Сьвятога пісьма старога дэстамэнту, зробленыя Жыдамі і прытарнаваныя да ўжываньня ў сынагогах ды іншыя творы, прыкладам падне жыдоўскіх песьняў набожных.[2])

П р а в а п і с. У стара-беларускім языццэ літаратурным быў правапіс царкоўна-славянскі, гэта зн., што ў словах і хормах беларускіх беларускія гукі перадавалі так, як у языццэ царкоўна-славянскім. Прыкладам: замест беларускіх дз, ц, ў пісалі д, т, л (д ѣ т и, в о л к ъ), а вымаўлялі дз, ц, ў (д з е ц і, в о ў к); замест а, паўсталага з о пісалі о (г о л о в а), а вымаўлялі а (галава) і да г. пад.[3]). Гэты правапіс дастаў беларускі язык у спадку ад пары папярэдняй, калі Беларусы пісалі адно пацаркоўна-славянску.

Памалу гэты правапіс мяняўся, тарнуючыся ў ладнай меры да вымовы беларускай. У II. пал. XVI. стаг. ня пісалі ѣ і ъ, вельмі часта па р, ж, ч, ш, щ, ц пісалі ы, гук g (лацінская літара) перадавалі пераз кг і г (грунт), а па мяккіх сугуках перадавалі пераз е (п а м е т ь, м е с е ц), ведама, пісалі у замест царкоўна-славянскага вялікага юса; ня пісалі, ведама, такжа ъ, ь там, дзе яны перайшлі ў о, е. Просьле гэтулькіх зьменаў правапіс запраўды стаўся ўжо беларускім, хоць вельмі недасканальным, паўсталым на грунце правапісу царкоўна-славянскага.

Н а з о ў с т а р а б е л а р у с к а г а я з ы к а л і т а р а т у р н а г а розьніўся ад цяперашняга, а вымова ня была аднолькавая на ўсім прастору ягонага пашырэньня. Беларусы звалі яго заўсёды „рускім". Украінцы таксама беларускі язык лі-

---

[1]) Станкевіч Я. — Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом Вільня 1933.

[2]) Глянь такжа маю зацемку „Жыдоўскія рэлігійныя песьні пабеларуску" („Гадавік Беларускага Навуковага Т-ва" кн. I. Вільня 1933, бач. 185).

[3]) Цікаўна, што Славенцы й цяперка пішуць n o g a, był, хоць вымаўляюць naga, byŭ і пад.

таратурны звалі „рускім" і ўважалі яго за свой собскі. У гэтым праяўляўся беларускі асыміляцыйны ўплыў. Тое самае трэба сказаць аб асьвячонай клясе літоўскай. Літоўская інтэлігенцыя, чытаючы пабеларуску, вымаўляла зусім так, як Беларусы. Украінцы часткава вымаўлялі пабеларуску, часткава паўкраінску. Прыкладам п и с а т и Украінцы маглі вымаўляць і пэўне вымаўлялі п ы с а т ы, але в о л, к о л, н е д е л я, б е з н а ш е е (книги і пад.) і пад. не маглі прачытаць паўкраінску. Дзеля таго Ўкраінцу народны язык беларускі і літаратурны «рускі» ня быў тым самым. Народны язык беларускі Ўкраінцы звалі літоўскім. Палякі звычайна беларускі язык—літаратурны й народны — звалі рускім і адно напару літоўскім. Затое ў Маскоўшчыне беларускі язык, як літаратурны, так і народны звалі літоўскім. Трэба зацеміць, што з гледзішча нацыянальнага Беларусы ў гэтую пару звалі сябе Ліцьвінамі, гэтак-жа нас звалі ўсе нашыя суседзі, але з гледзішча рэлігійнага Беларусы ўсходняга абраду заўсёды зваліся Русінамі.

Беларускія мусульмане пісалі свае рэлігійныя кнігі альфабэтам арабскім, а пішучы беларускай моваю народнай, выробленага правапісу ня мелі, але пісалі фонэтычна подле мясцовай вымовы асобных аўтараў. Як і Беларусы хрысьцяне, ужываны імі язык звалі рускім.

## Упадак старабеларускага языка літаратурнага (стаг. XVII — XVIII.).

Старабеларускі язык літаратурны быў гаспадарсьцьвеным у Вялікім Княстве Літоўскім да канца XVII стаг. (да 1697 г.), а літаратурным астаўся также ў стаг. XVIII. Але ўпадак яго пачаўся ўжо ў канцы стаг. XVI. Наўперад ён запсаваўся на прастору ўкраінскім па Люблінскай вуніі, бо, як Украіна адыйшла да Польшчы, апынуўся ён на землях украінскіх адарваным ад свайго матчынага пня ў Беларусі. У стане яшчэ горшага ўпадку быў ён на Ўкраіне ў наступным стагодзьдзю, у той час як на прасторы Вялікага Княства Літоўскага, хоць упадаў, але быў яшчэ нішто сабе, асабліва ў творах арыгінальных. Аднак у стаг. XVIII. таксама ў сваёй бацькаўшчыне наш літаратурны язык чыста ўпаў. Сталася гэта з прычыны палітычнага й культурнага ўпадку народу беларускага.

## Беларускі народны язык у стаг. XVI — XVIII.

Якая ж была доля ў гэтую пару беларускага языка народнага? І тут доля языка была аднолькавая з доляю народу і дзеля таго падобная да долі языка літаратурнага. Мы бачылі які вялізарны простор займаў беларускі народны язык у IX—XV стаг. Вялікі князь Альгерд (1345—1377) просьле свайго паходу на Маскву ўстанавіў із Маскоўшчынаю граніцу, каторая абыймала на ўсходзе ўсе беларускія землі. За вялікага князя Вітаўта (1392—1430) ўвесь прастор беларускага языка быў у вадным беларускім гаспадарстве, каторым было Вялікае Княства Літоўскае, бо тады навет Пскоўшчына й Цьвершчына прызнавалі над сабсй уладу беларускага валадара. Але за якісь час па Вітаўту Пскоўшчына была ўтрачана і адгэнуль падпала пад асыміляцыйны ўплыў спачатку Вялікага Ноўгараду, а пасьлей Мэсквы. Ягайлавічы, уцягнуўшыся ў політыку на заходзе, недаволі зварочавалі ўвагі на ўсходнія граніцы свайго бацькаўскага гаспадарства. Гэта дало магчымасьць Маскве памалу, але сыстэматычна адрываць ад беларускага гаспадарства спачатку землі вяціцкія, пасьлей і часьць крывіцкіх на ўсходзе (Гжацк, Вязьма і інш.), а на'т северскіх (Пуціўль, Трубчэўск). Адрываныя часьцьмі ад беларускага гаспадарства гэтыя землі пад цэнтралістычным уплывам Масквы маскаліліся. У XIX стаг. вяціцкія землі былі ўжо чыста змаскалены, адно асталіся чысьленыя сьляды ў мове, сьведчачыя аб яе спачатнай беларушчыне. Усходнія часьці крывіцкіх і северскіх гаворкаў захавалі праўда свой характар беларускі, але паддаліся наслаеньню мовы маскоўскай, творачы гэткім спосабам, як завуць расейскія філёлёгі, гаворкі пераходныя на аснове беларускай і пазьнейшым наслаеньням маскоўскім. Граніца цэтых гаворкаў із гаворкамі маскоўскімі цяпер праходзіць па ўсходняй граніцы былой губэрні Смаленскай ды адразае да беларускага прастору большую часьць б. губэрні Калускай. У гэткім-жа стане ёсьць гаворкі Пскоўшчыны і часьці Цьвершчыны.

На заходзе па Люблінскай вуніі (1569) адыйшла да Польшчы невялічкая часьць беларускіх земляў. Дзеля таго пад уплывам польскім граніца беларускага языка там адсунулася крыху на ўсход, а на асталых беларускіх землях Польшчы („Кароны") беларуская мова падпала пад некаторы ўплыў мовы польскай (у пав. Аўгустоўскім і Беластоцкім), а ў пав. Бельскім яшчэ й украінскай.

У часе находу Татараў у XIII стаг. северанскія Беларусы на паўдні ад Дзясны часткава пасунуліся на поўнач, а часткава былі зьністожаны. Пасьлей, у XVII стаг. прастор іх заняла ўкраінская колёнізаца з правага боку Дняпра. Далей у часе ўкраінскай гэтманшчыны на Правабярэжжу мова часьці Северан, а пайменна займаючых прастор ля Дзясны з паўдня, а навет часткава на поўнач ад Дзясны, падпала ў ладнай меры пад уплыў мовы ўкраінскай, творачы гаворкі пераходныя. На прасторы северскім чысты беларускі язык астаўся ў павеце Горадненскім, у часьці Ноўгарад-Северскага, у Новазыбкаўскім, Старадубскім, Мглінскім, Сураскім і ў часьці Трубчэўскага.

У XVII стаг. ў часе казацкіх войнаў быў зроблены некаторы ўплыў украінскі на беларускія гаворкі палескія. Уплыў гэты паўтарыўся ў XIX стаг., ідучы ад адраджэнскага руху ўкраінскага за пасярэдніцтвам прыяжджомых з Украіны разьездных хораў, тэатру ды шыраных народных песеньнікаў украінскіх, бо адраджэньне ўкраінскае пачалося шмат раней за беларускае. Уплывы ўкраінскія прывозілі такжа беларускія работнікі, выяжджаючыя ў шахты Данецкія і ў іншыя ўкраінскія мясцовасьці.

Даўнейшая граніца беларускага языка зь літоўскім, латыскім і эстонскім не зьмянілася.

Вышэй былі вылічаны страты так сказаць горызонтальныя, каторыя меў беларускі язык на сваіх шырокіх „украінах" (пагранічча). Але ў XVII—XVIII, а нат XIX стаг. меў ён такжа балючыя страты стацьцявыя. Пайменна: першыя перасталі ім гукаць (гаварыць) беларускія магнаты, а далей і звычайныя панове. Пры беларускім языццэ асталося сялянства, мяшчанства й шляхта (засьцянковая); апошняя яшчэ ў XIX і XX стаг. што раз балей з аднаго боку палячылася (шляхта каталіцкая), а з другога маскалілася (праваслаўная).

У XVII і XVIII стаг. пад уплывам іміграцыі (прыезду) ў Беларусь Жыдоў нямецкіх Жыды беларускія перасталі ўжываць між собку беларускі язык. Яго замяніў язык (званы нярэдка жаргонам), паўсталы ў Жыдоў на грунце мовы нямецкай. Адгэнуль беларускія Жыды карыстаюцца беларускай мовай адно ў зносінах із Беларусамі.

## Паўстаньне новага беларускага языка літаратурнага.

У стаг. XIX, а навет у канцы XVIII даўнейшы беларускі язык літаратурны быў ужо забыты. Дзеля таго ў першай пары нацыянальнага адраджэньня беларускія пісьменьнікі не маглі сіляць (чэрпаць) із даўгавечных запасаў ягоных. Дык пісалі ў языцэ народным. Нягледзячы на стараньні даць сваёй мове рысы агульнабеларускія, была гэта спачатку беларуская мова мясцовая тых аколіцаў, з каторых паходзілі асобныя пісьменьнікі. Адно ў пачатку XX стаг. пры шыршай літаратуры беларускай паўстае новы беларускі язык літаратурны. Можна ўважаць, што асноваю яго сталіся гаворкі заходнія цэнтральнага дыялекту беларускага з прымешкай некаторых асаблівасьцеў беларускіх гаворкаў паўдзённа-заходніх.

Прыпомнім сабе, што асноваю старабеларускага языка літаратурнага быў той самы дыялект цэнтральны, адно ў сваіх гаворках усходніх.

Справа альфабэту. У часе прыйма хрысьцянства ў X стаг. зьявілася ў Беларусі літаратура пісаная тым самым альфабэтам (літарамі), што мы цяпер бачым у царкоўнаславянскіх кнігах, з каторых духавенства моліцца ў царкве. З часам гэны альфабэт стаў звацца кірыліцаю, аднак ня выдумаў яго сьв. Кірыла[1]), але ў X стаг. адзін із вучанікаў ягоных, выкарыстаўшы дзеля гэтага альфабэт грэцкі.

Даўгі час кірыліца ўжывалася ў Беларусі бязь зьменаў. Але яна была цяжкая да пісаньня, бо хорма ейных літараў адзначалася шмат якімі выкрутасамі. Дзеля таго пасьлей вырабілася пісьмо прасьцейшае, званае скарапісьсю, што йснавала побач із пісьмом характару старшага.

Нацемлены скарапісьсю кірунак выкарыстаў у пач. XVIII стаг. беларускі навучоны, Гальляш Капіевіч-Капіеўскі. Ён „зрэфармаваў

---

[1]) Сьвятыя Кастанцін-Кірыла і Мэтод былі славянскімі апосталамі ў IX стаг. Першы зь іх выдумаў славянскі альфабэт, званы сьпярша кірыліцаю, а пазьней глаголіцаю. Глаголіцу й цяпер ужывае ў літургічных кнігах часьць каталіцкіх Харватаў.

кірыліцу, прыблізіўшы яе да альфабэту лацінскага. Рэформа Капіевічава была вельмі ўдалая, дзеля таго яе прынялі ня толькі Беларусы, але й усе тыя Славяне, штодагэнуль карысталіся кірыліцаю старой, не рэформаванай (Украінцы, Баўгары, Сэрбы, Маскоўцы). Капіевіч-Капіеўскі зрабіў сваю рэформу жывучы ў Голяндыі. У тым часе жыў у Голяндыі і маскоўскі цар Пётра І. Ён так сама ацаніў рэформу беларускага наўчонага і ўказам увёў зрэформаваны Капіевічам альфабэт у сьвецкія, ці накш цывільныя (у Маскалёў з баўгарскага — г р а ж д а н с к і я кнігі [1]). Дзеля таго зрэформаваная кірыліца стала ў Маскоўшчыне звацца гражданкаю. Назоў гэты ня правільны. Справядлівасьць вымагае, каб у назове рэформаванай кірыліцы адбівалася нацыянальнасьць яе рэформатара, павінна яна звацца беларускім альфабэтам. І пагатове самі Беларусы павінны яе гэтак зваць.

Зь беларускім адраджэньням беларускі альфабэт яшчэ крыху ўдасканальніўся, пайменна ў XIX стаг. ўведзена была літара „ў" і аддалена щ, бо ў беларускім языцэ аднаго гуку щ няма, а ё два гукі шч, а ў XX в. літара „и" ўсюды была заменена літараю „і", каторая й даўней часткава ўжывалася. Літара „и" была аддалена з гледзішча практычнага.

Каб завяршыць рэформу Капіевічаву, трэба было „й" замяніць літараю „j" (значыцца пісаць „своj", а ня „свой" і пад.) ды замест е, ё, ю, я па самагуку пісаць je jo, jу, ja, пакідаючы е, ё, ю, я па сугуках. Прыкл.: С я с т р а J а з э п а ч ы т а j е м а j у к н і г у. Гэтак даўно зрабілі Сэрбы. Гэта й пастанавіла Навуковая Конфэрэнцыя ў Менску ў 1926 г., але чужая воля (маскоўская) не дазволіла правесьці гэтае рэформы ў жыцьцё. Літары „і" адпавядае „j", а ня „й". Апрача таго „j" выразьнейшая ў чытаньню і практычнейшая (меней займае месца) ў пісаньню й у друку.

Традыца старабеларускага літаратурнага языка натолькі была забыта, што калі ў XIX стаг. пачалося адраджэньне беларускай літаратуры, дык пісьменьнікі ў сваім рэлігійным жыцьці не зьвязаныя зь беларускім альфабэтам, значыцца пісьменьнікі каталікі, сталі пісаць лацініцаю (побач ізь імі іншыя беларускія пісьменьнікі

---

[1]) У багаслужэбных кнігах усюдых дагэтуль асталася кірыліца не рэформаваная.

пісалі альфабэтам беларускім). У 1910 г. рэдакца „Нашае Нівы" абясьціла апытаньнік, каб разьвязаць справу, які альфабэт маюць Беларусы агульна ўжываць. Пытаньне было разьвязана на карысьць альфабэту беларускага. Апрача вельмі важнага мамэнту гісторычнага за літарамі беларускімі прамаўляе яшчэ тое, што на ўсходзе (Смаленшчына і інш.). лацініцы немагчыма было-б пашырыць, а на заходзе беларускі традыцыйны альфабэт мае яшчэ значэньне нацыянальна-абароннае.

Нягледзячы на вышсказанае і лацініца часткава ўжываецца ў беларускім друку і будзе ў гэткай меры далей ужывацца, бо апрача праваслаўных Беларусаў ё яшчэ каля 3 міл Беларусаў каталікоў, каторыя часткава ня ўмеюць беларускага альфабэту, ■ часткава з прычыны несьвядомасьці пад чужым уплывам і ня любяць. Дык добра, што Беларусы сабе лацініцу зрэформавалі, прыняўшы навуковыя значкі для літараў, адпавядаючых беларускім ў, ч, ш, ж, (значыцца ўжываюць ŭ, č, š ž), ды замяніўшы нямецка-польскае w на v. Лацініцы ня можна зваць альфабэтам польскім, запраўдны яе назоў беларуская лацініца.

Дзейнікі ўплываючыя на літаратурны язык. Ня праўда, што нормы літаратурнага языка вытварае вылучна літаратура. Гэтак бывае тады, калі, як гэта было ў Маскоўшчыне, грамадзянства астаецца бязьдзейным пры тварэньні літаратурнага языка. У прыпадку адваротным у тварэньню літаратурнага языка большае або меншае ўчасьце прыймае дзейнік грамадзкі й навуковы. Прыкладам у Чэхіі й Літве два апошнія дзейнікі бязумоўна пераважалі. Можна сконстатаваць, што навуковы й грамадзкі дзейнік заўсёды пануюць там, дзе нацыянальны язык перажыў упадак і паддаўся ў большай або меншай меры ўплывам языкоў чужых. На беларускім грунце роля навуковага й грамадзкога дзейнікаў была ня меншая, як літаратурнага.

Роля літаратуры. Ужо ў XIX стаг. паміж беларускімі пісьменьнікамі (Багушэвіч — Абуховіч) вядзецца спрэчка аб тым, які мае быць беларускі язык літаратурны. Але, наагул кажучы, навет у пачатку XX стаг. беларускія пісьменьнікі ня вельмі рупіліся аб выпрацаваньні беларускага языка літаратурнага. Калі не казаць аб меншых, дык Кастанцін Міцкевіч (псэўдонім Якуб Колас), як фотографуе жыцьцё й тыпы, так сама й мову і нічога ня ўжывае такога, чаго не пачуў у дадзеных абставінах. Самастайнейшы

быў Ян Луцэвіч (псэўдонім Янка Купала), але й ён над выпрацоўваньнем літаратурнага языка блізу не працаваў. Затое шмат рупіцца аб літаратурным языццэ поэта-эмігрант, узгадаваны ў Маскоўшчыне Максім Багдановіч, але з тае прычыны, што ня знаў беспасярэдне мовы народнай, уплыву на літаратурны язык не зрабіў жаднага. Мова твораў ягоных, нягледзячы на дасканальную хорму, горшая за мову іншых поэтаў. Ня тое Максім Гарэцкі. Гэты мову свае мясцовасьці знае добра і рупнасьць ягоная аб выпрацоўваньні беларускага языка літаратурнага пакінула ладны сьлед у гэтым языццэ.

Наагул аднак перад сусьветнай (сьветнай) вайной у гэтай галіне балей зьдзеіла публіцыстыка. Нельга такжа абмінуць моўчыкам уплыву мовы корэспандэнтаў, што з розных куткоў Беларусі пісалі ў беларускія часапісы.

У часе паваенным трэба з прызнаньням аднесьціся да рупнасьці аб культуры літаратурнага языка ў пісьменьніка Станіслава Грынкевіча.

Ад якогась часу выдатнае значэньне ў выпрацоўваньню літаратурнага языка мае ў радавай Беларусі група пісьменьнікаў на чале з Касянком (псэўд. М. Зарэцкі) і Лыньковам. На заходніх беларускіх землях ім адпавядае Аўгень Скурка (псэўд. Максім Танк). Мова гэтых пісьменьнікаў, як і вышменаванага Гарэцкага, ня толькі беларуская падзеля сваіх словаў, але такжа дзеля орыгінальнага беларускага стылю [redacted] фразэёлёгіі. Зразуменьне орыгінальнасьці языка беларускага лучыцца ў іх із знацьцём мовы народнай, уменьням выкарыстаць яе багацьці ў літаратуры ды высокім мастацтвам твораў. Апошні мамэнт відавочна палягчае ім стараньні аб культуры языка літаратурнага.

Н а в у к о в ы й г р а м а д з к і д з е й н і к. С л о ў н і к і. Пераходзячы да навуковага й грамадзкога дзейнікаў, прыймаючых учасьце ў хормаваньню новага беларускага языка літаратурнага, трэба найперней успомнець аб аўтарах слоўнікаў. Першым аўтарам слоўніка беларускага ў новых часох ёсьць Ян Чачот, прыяцель Адама Міцкевіча. У сваім зборніку народных песьняў беларускіх, выданых у Вільні ў 1846 г. пад наз. „Piosnki wieśniacze z nad Niemna I Dźwiny w mowie ludu krewickiego" ён надрукаваў на колькідзесяцёх бачынах слоўнічак беларускі. Гэта слоўнічак кароценькі, але добры, чаго ня можна сказаць аб граматычных развàжаньнях аўтаравых у перадмове да тае-ж кніжкі. Выдатная роля была вялікага слоўніка

беларуска-расейскага Я. Насовіча з 1870 г. У ім багаты матар'ял, каторым ня цяжка карыстацца знаючаму беларускі язык. Некаторае значэньне мелі слоўнічкі „Маскоўска - беларускі" і „Беларуска - маскоўскі" (абодва ў Вільні 1921 г.) братоў М. й Г. Гарэцкіх. Але няўдалы „Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" Вячаслава Ластоўскага, выданы ў Коўні 1924 г. Аўтар ляік у языкаведзе, пры гэтым вельмі суб'ектыўны. Забраны матар'ял ён выдаў ненавукова, друкуючы пры тым-жа разам бяз жаднага выдзяленьня словы ім нова-створоныя. Ад гэтага слоўнікам Ластоўскага цяжка карыстацца. Добры „Батанічны слоўнік беларуска-польска-расейска-лацінскі" Зоські Верас (у Вільні 1924). Бескарысны „Падручны беларуска-польскі слоўнік" Б. Друцкага-Бадбярэскага, выданы ў Вільні 1929 г. З прычыны цяжкіх варункаў працы ў радавай Беларусі мае шмат заганаў „Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча, выданы ў Менску ў 1925 г., як там-жа выданыя слоўнічкі тэрмінолёгічныя.

Языкаведнікі. Зь языкаведнікаў беларускіх найбалей ведамы Яўхім Карскі. Дык ня можна аб ім гэтта ня ўспомнець. Нягледзячы на некаторую зьверхнасьць і русыфікацыйную тэндэнцу ягоных працаў навуковых, значэньне яго дзеля навукі языка беларускага было ладнае. Яно праявілася ў павялічэньні ў языкаведзе славянскай значэньня студыяў языка беларускага, у вадваяваньні— нягледзячы на ўсё — лепшага месца беларускаму языку ўрадзіме славянскай, а наўперад у прызнаньні й абароне беларушчыны гаспадарсьцьвенага й літаратурнага языка Вялікага Княства Літоўскага. Але Карскі выходзіў із мітычнай суцэльнасьці „прарускай" і ймкнуўся да адзіноства „рускага" ў сваіх працах. Дзеля таго ён ані не памог у тварэньню новабеларускага языка літаратурнага.

Першую беларускую граматыку напісаў у 1846 г. этнограф Шпілеўскі. Ён здаў яе ў Расейскую Акадэмію Навук, але яна надрукавана ня было.

Да ўнормаваньня асаблівасьцеў літаратурнага языка прычынілася ў сваім часе нішто практычная граматыка Браніслава Тарашкевіча, выданая першы раз у Вільні ў 1918 г. Нажаль, Тарашкевіч, скончыўшы ўнівэрсытэцкія студыі, не працаваў далей у языкаведзе, дзеля таго значэньне яго дагэтуль абмежылася менаванай граматыкаю.

Можна казаць толькі аб значэньню мясцовым—у Менску — граматыкі й правапісу Язэпа Лёсіка. Ня мае ніякага значэньня „Беларускі правапіс" Радаслава Астроўскага.

З прызнаньням трэба ацаніць працы Растаргуевы ды людзёў, на‘т не адумыслоўцаў, што працуюць у галіне беларускага языка, кіруючыся ягонымі парадамі, як прыкл. Палявоя.

Дзеля сваіх русыфікацыйных тэндэнцыяў проста шкодны Воўк-Левановіч.

Навуковая конфэрэнца ў Менску 1926 г. ў справе рэформы правапісу (а запраўды й граматыкі практычнай), нягледзячы на свае заганы, стаяла на добрай дарозе, але пастановы ейныя не маглі быць ужыцьцёўлены, а працы ведзены далей з прычыны забарону Масквы.

Напасьледак, думаю, што й мая скромная праца ў гэтай галіне прычынілася крыху да культуры беларускага языка літаратурнага.

Дзейнік навуковы й грамадзкі падалі сабе руццэ ў супольных зборках, пасьвячоных чысьціні беларускага языка, што былі ў працягу апошніх колькіх год. У менаваных зборках прыймаюць учасьце жывучыя ў Вільні Беларусы, што тым ці іншым спосабам уплываюць на хормаваньне беларускага языка літаратурнага, значыцца языкаведнікі, пісьменьнікі, публіцыстыя і пад. Пастановы зборкаў пакуль што часткава выданы ў кніжцы „Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску", Вільня 1937.

Напасьледак, трэба наагул сконстатаваць, што новы беларускі язык літаратурны ня толькі ёсьць, але разьвіваецца, дасканальніцца а ў сваіх балей пераборлівых галінах ён дзіўна арыгінальны, багаты й харошы. Дык няма сумлеву, што ён пераможа ўсе перашкоды, стаўленыя—часта сілком—яму на дарозе, як, прыкладам, праведзеная ў 1933 г. Масквою ў радавай Беларусі русыфікаца практычнай граматыкі беларускай. [1])

Яшчэ колькі словаў аб цяперашняй беларускай мове народнай. Побач із нацыянальным усьведамленьням беларускае насяленьне ня толькі яе любіць, але й шануе. Дзеля таго робіцца яна адпарнейшай на асыміляцыйныя ўплывы, а часта бывае проста непераможная, нягледзячы на тое, што асыміляцыйныя пляны праводзяцца бязуважна, сілком.

Д р. Я. С т а н к е в і ч.

---

[1]) Гл. Станкевіч Я.: Зьмена граматыкі беларускага языка ў БСРР. Вільня 1936.

(Lithuani) linguam propriam observant. Verum quia Rutheni medium fere ducatum incolunt, illorum loquela, dum **g r a c i l i s** et **f a c i l i o r** sit, utuntur communius.

Пераклад гэтага на беларускую мову:

(Ліцьвіны) маюць собскую мову, але дзеля таго што Беларусы займаюць блізу сярэдзіну княства, іх мова, як харошая й лягчэйшая, агульна ўжываецца.

Z „Oratio Erasmi Vitellii praepositi Vilnensis... 1501 году (Theiner: Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae, II (Romae, 1861), 278.

**А пісар земскі маець па руску, літарамі й словы рускімі ўсі лісты, выпісы й позвы пісаці, а ня іншым языком і словы.** Зь Літоўскага Статуту 1588 г., бач. 122.

Яка адзін сэнатар рымскі другога штрафаваў, што права айчыны свае ня ўмеў, так кажды абывацель годны ёсьць наганеньня, каторы вольнасьцю хваліцца, а праў сваіх умеці й разумеці ня хочаць, каторым правам усю вольнасьць сваю абвараванай маець. **А есьлі катораму й народу ўстыд праў сваіх ня ўмеці, пагатове нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем і каждага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды ведаці можам.**

З прамовы на Сойме 1588 г. Канцлера Вялікага Княства Літоўскага, Лява Сапегі, з прычыны выданьня Літоўскага Статуту 3-яе рэдакцы.

Нашая мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная... Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек перад скананьням, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!

Пранціш Багушэвіч

(у перадмове да „Дудкі беларускай").

Гэй, ты маці, родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота зьбіты,
Загрымі ты,
Загрымі!

А. Гарун.

* * *

Беларуска мова! Твой тон сьпеўны будзіць
Успамін старых гадоў.
Белыя, ціхія ў ёй гамоняць людзі
Мовай хат ясных і лясоў.
Ты краска мёдная ліпова;
Там дзе Славянаў чутна слова,
Жаўранкай звоніць гэта мова,
У шчэбеце мілых слоў.

В. Гамуліцкі,
з польскай мовы пераклаў
А. Стаповіч.

